**СОНЦА:**

Усход, заход, даўжыня дня:
Мінск — 4.42, 21.33, 16.51;
Віцебск — 4.24, 21.31, 17.07;
Магілёў — 4.31, 21,22, 16.51;
Гомель — 4.36, 21.12, 16.36;
Гродна — 4.58, 21.48, 16.50.
Брэст — 5.08, 21.39, 16.31.

**МЕСЯЦ:**

Маладзік 1 чэрвеня.

**ІМЯНІНЫ:**

Васіліска, Івана;
Кароля, Францішка.





# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

4 ЧЭРВЕНЯ 1992 г.
чацвер, № 111 (21889)




## РОЗГАЛАС

### БУДЗЕ БЕЛАРУСКІ АЎТОБУС!

**Учора ў Мінску на плошчы Незалежнасці прадстаўнікі беларускага ўрада, прамысловых прадпрыемстваў, жыхары горада мелі магчымасць пазнаёміцца з аўтобусамі нямецкай фірмы «Неаплан», якія ў недалёкай будучыні будуць выпускацца на Мінскім аўтамабільным заводзе. Аўтобусы, трэба адзначыць, не менш камфартабельныя, чым лепшыя авіялайнеры. У вытворчасці новых машын будуць прымаць удзел дзесяткі беларускіх прадпрыемстваў.**

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**





## ІТАЛІЯ — БЕЛАРУСЬ: СФЕРА ЎЗАЕМНЫХ ІНТАРЭСАЎ ПАШЫРАЕЦЦА

— Пры знешняй непадобнасці народы Італіі і Беларусі ў многім вельмі блізкія. Яны сардэчныя, працавітыя, добразычлівыя... Гэтымі словамі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Італьянскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Джанлука Бертынета вечарам 2 чэрвеня адкрыў афіцыяльны прыём з выпадку нацыянальнага свята сваёй краіны — Дня абвяшчэння рэспублікі.

— Я перакананы, што Беларусь і Італію моцна звяжуць вузы ўзаемных інтарэсаў. Незалежнасць вашай дзяржавы адкрывае вельмі добрыя перспектывы для двухбаковых адносін, — падкрэсліў пасол.

Старшыня Савета Міністраў Беларусі Вячаслаў Кебіч, які выступіў са словам у адказ, адзначыў, што сімпатыі пасла да Беларусі выразна праявіліся ў час візіту беларускай урадавай дэлегацыі ў Італію. «Тады пан Бертынета на нашай сустрэчы з італьянскімі бізнесменамі сказаў такія словы: «Калі вы хочаце мець уяўленне пра Беларусь, забудзьцеся аб Савецкім Саюзе».

Далей прэм'ер-міністр растлумачыў, які сэнс укладваўся ў гэта выказванне. Размова ішла аб тым, што Беларусь — самастойная дзяржава, унутраная палітыка і дзейнасць якой на міжнароднай арэне пераконваюць у разумных намерах яе кіраўніцтва, у добрым жаданні не звяртацца да Захаду, у прыватнасці да Італіі, з працягнутай рукой, а прапаноўваць і разам ажыццяўляць розныя ўзаемавыгадныя праекты.

Гэтыя выказванні афіцыяльных асоб пацвярджаюцца практыкай добрых адносін, якія ўжо ўстанаўліваюць дзелавыя колы абедзвюх дзяржаў. Пасля візіту ў Італію дэлегацыі на чале з Вячаславам Кебічам цікавасць бізнесменаў да Беларусі асабліва ўзрасла. Ад кіраўніка ўрада яны атрымалі цвёрдую гарантыю абароны сваіх капіталаўкладанняў, што абумоўліваецца і прынятымі беларускім парламентам законамі.

На прыёме прысутнічалі кіраўнікі ўрада, народныя дэпутаты, дыпламаты, прадстаўнікі грамадскасці рэспублікі.

(БЕЛТА).

## НА БАЗАРЫ ЯК НА БАЗАРЫ...

**Зноў падскочылі цэны. І, як заўсёды перад падаражаннем, людзі скупліваюць усё падрад: бытавыя рэчы, адзенне, абутак, забіваюць прадуктамі халадзільнікі. А што ж базар? Ён жыве сваім жыццём. Цэны падскочылі і на ім, але не намнога. Гандляры з вёсак нават упрошваюць пакаштаваць свае сельскагаспадарчыя прадукты, прапануюць патаргавацца і згодны ўступіць свой тавар за такія цэны (цана 1 кг):**

Ялавічына — 180 руб., свініна — 130—170 руб., тварог — 30—80 руб., масла — 120—140 руб., смятана — 50 руб. (за літр), бульба — 3,75—5 руб., капуста (качан) — 19 руб., буракі — 3,55 руб., цыбуля (зялёная) — 12,5 руб., цыбуля (рэпка) — 9 руб., яблыкі — 50—80 руб., агуркі — 25—50 руб. (але сустракаюцца і па 18 руб.), памідоры — 50 руб., радыска — 7,96 руб., чарнасліў (сушаны) — 42—50 руб., курага — 120 руб., арахісавыя арэхі — 62—80 руб., грэцкія арэхі — 70 руб., арэх-фундук — 80 руб., часнок — 120 руб., лімон (адна штука) — 115 руб. Цыгарэты «Астра», «Прыма» — 10 руб., замежныя — «Кэмел» — 84 руб., зялёны гарошак (1 банка) — 29 руб., кава (1 пакецік — 2,5 грама) — 10 руб.

На рэчавым рынку таксама з'явіліся перамены: адзенне падаражала, абутак, наадварот, стаў таннейшым.

Тайландскія джынсы прапануюць за 1.100 рублёў, джынсы вытворчасці ЗША — 2.500 руб., мужчынскія штаны фірмы «Катон» — 2.500—2.800 руб., жаночыя штаны — 1.500 руб., спадніцы (прывезеныя з Польшчы) ідуць па 2.500 руб., ласіны — 1.200 руб., летняя куртка тыпу «вятроўка» — 1.200 руб., летнія майкі з малюнкам — 430—500 руб., жаночыя туфлі (айчыннага вырабу) — 1.300—1.500 руб., замежныя — 2.000—3.700 руб., мужчынскія (замежныя) — 2—3 тысячы руб., красоўкі — ад 1.300 да 2.200 руб., дзіцячыя красоўкі — да 700 руб., спартыўны касцюм (замежнай вытворчасці) — ад 2.700 да 7.300 руб., курткі замежнай вытворчасці 5—7 тысяч рублёў.

Вось такія зараз базарныя справы.

**Сяргей ДЗЯДЗЮЛЯ.**

## НАШЫ ГІСТОРЫКІ ЗНАХОДЗЯЦЬ СПОНСАРАЎ. ПРАЎДА, ЗА МЯЖОЙ

МІНСК. **(Андрэй Смык, кар. БелаПАН).** З канферэнцыі пад умоўнай назвай «Рым трэці», што адбылася ў Камянец-Падольску, вярнулася беларуская дэлегацыя. У старажытным украінскім месцы навукоўцы з Германіі, ЗША, Румыніі, Літвы і Украіны абмеркавалі праблемы існавання чалавека, грамадзянскай супольнасці і дзяржаў у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. Беларускую дэлегацыю, у якой было сем вядомых навукоўцаў рэспублікі, узначальвалі дырэктар Скарынаўскага цэнтра Адам Мальдзіс і намеснік старшыні Камісіі ВС рэспублікі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны Беларусі Алег Трусаў. Даклады нашых навукоўцаў выклікалі вялікую цікавасць, у тым ліку і сярод зарубежных спонсараў. Беларусам, у прыватнасці, адразу былі прапанаваны сродкі для напісання альтэрнатыўнага падручніка па гісторыі сваёй краіны. Цікава, што сярод прысутных прадстаўнікоў Расіі не было. Чарговую канферэнцыю — «Рым чацвёрты» — вырашана правесці ў Мінску ў чэрвені 1993 года.

## РАДЫЁФАКТ

Прэзідыум савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі разгледзеў пытанне, звязанае з канфліктам паміж наёмнымі рабочымі і адміністрацыяй турэцкай фірмы «Энка», якая вядзе будаўніцтва жылля ў Слоніме. Устаноўлена, што пры заключэнні кантрактаў турэцкі бок парушае працоўнае заканадаўства Рэспублікі Беларусь. У адрас урада накіраваны ліст з патрабаваннямі прыцягнуць праваахоўныя органы да разгляду канфлікту.

***

**Самы буйны ў Беларусі Дняпроўска-Бугскі канал без падпіткі з Украіны несуднаходны — гэта, як гавораць, геаграфічная аксіёма двух апошніх стагоддзяў. І можа здарыцца, што ўпершыню практыка яе пацвердзіць. Сусед з поўдня прад'явіў шэраг патрабаванняў да вытворчага аб'яднання «Белводшлях», у выпадку невыканання якіх (напрыклад, рамонту гідравузлоў у Валынскай вобласці), шлюз можа быць перакрыты.**

**Як бачым, праблем прыбаўляецца не толькі на сушы...**

***

У красавіку гэтага года ў параўнанні са снежнем 1991 г. цэны на тавары народнага спажывання ў дзяржаўным гандлі і спажывецкай кааперацыі Беларусі павысіліся ў 4,3 раза. У тым ліку цэны на харчовыя тавары ў 3.6 раза, на нехарчовыя — у 5,3 раза. Пра гэта паведаміў карэспандэнту праграмы «Радыёфакт» начальнік упраўлення статыстыкі цэн Дзяржкамстата Рэспублікі Беларусь В. Міхно. Дарэчы, споўнілася роўна год як было ўтворана гэта структурнае падраздзяленне. Яго мэта — забеспячэнне органаў улады і дзяржаўнага кіравання, а таксама органаў сацыяльнай абароны і насельніцтва праўдзівай інфармацыяй аб узроўні і дынаміцы цэн у рэспубліцы. Дарэчы, гэта ж упраўленне робіць для нас з вамі разлік індэкса спажывецкіх цэн больш чым па тысячы харчовых і нехарчовых тавараў і па 150 відах платных паслуг, якія ахопліваюць да 80 працэнтаў рознічнага тавараабароту.

***

**Начальнік упраўлення арганізацыі гандлю Міністэрства гандлю Рэспублікі Беларусь Г. Мельнік са спасылкай на непацверджаныя крыніцы паведаміў пра сумненні наконт таго, што бліжэйшая сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь разгледзіць Закон аб абароне правоў спажыўца. У гэтай сувязі ён паведаміў, што Міністэрства гандлю разаслала пісьмовыя тлумачэнні ўсім падведамным арганізацыям па выпадках незаконных патрабаванняў выплат розніцы паміж ранейшай і цяперашняй цаной тавараў, якія спажыўцы вымушаны замяняць у выніку выхаду іх са строю. Даведкі можна атрымаць па тэлефонах у Мінску: 27-63-17 і 27-12-26.**

***

З чэрвеня ў Мінску пачалася сустрэча прэзідэнтаў саюзаў прадпрымальнікаў і дзелавых людзей краін СНД. Абмяркоўваюцца шляхі ўстанаўлення міждзяржаўнага ўзаемаразумення прадпрымальніцкіх структур.

***

**Сацыялагічны цэнтр пры Белдзяржуніверсітэце правёў рэспубліканскае даследаванне палітычнай сітуацыі.**

**Каля 80 працэнтаў апытаных лічаць, што ў цяперашнім крызісе вінаваты былы партыйна-дзяржаўны апарат. 64 працэнты віталі б прыняцце закона, які забараняў бы былым партфункцыянерам займаць кіруючыя пасады. Па паведамленню сацыёлагаў, прадстаўнікі сярэдняга звяна ўлады ў Беларусі — найбольш кансерватыўныя, чым астатнія групы насельніцтва.**

**Даныя апытання прадказваюць сур'ёзныя палітычныя змены ў рэспубліцы ў будучым.**

***

Французскі журналіст Эрык Ларан паведаміў пра рабочыя сустрэчы, якія правёў са швейцарскімі, нямецкімі, французскімі і брытанскімі банкірамі ў канцы 1990 г. у Цюрыху тагачасны міністр фінансаў В. Паўлаў. Дарэчы, Паўлаў ездзіў у Цюрых з фальшывым пашпартам, сцвярджае Ларан.

Другі факт, які прыводзіць французскі журналіст, гэта агульная сума грошай, вывезеных за рубеж у месяцы, што папярэднічалі жнівеньскаму путчу — 26 мільярдаў долараў.

Напярэдадні путчу дырэктар савецкага Дзяржбанка Герашчанка па загаду Кручыны перавёў за мяжу 280 мільярдаў рублёў у абмен на 12 мільярдаў долараў.

***

**Урачыстай літургіяй у храме Ушэсця ля Нікіцкіх варот у Маскве пачнецца свята Ушэсця Гасподня, якое сёлета адзначаецца Рускай праваслаўнай царквой 4 чэрвеня. Літургію правядзе Патрыярх Маскоўскі і Усяя Русі Алексій II.**

**Ушэсце — апошняе веснавое праваслаўнае свята (па старому стылю).**

***

Начальнік упраўлення ўнутраных спраў на транспарце МУС РБ М. І. Чаргінец паведаміў, што сёлета выяўлена 350 фактаў незаконнага вывазу з рэспублікі масла. Затрымана 20 тон гэтай прадукцыі, якую спрабавалі вывезці на поўдзень асобы пераважна каўказскай нацыянальнасці.

***

**Днямі ў гасцініцу «Юбілейная» ў Мінску засяліліся Сяргей Б. з Таліна і Павел К. з Вільнюса. Іх жонкі, не без дазволу мужоў, спрабавалі завалодаць асабістымі рэчамі і каштоўнасцямі замежных турыстаў з Югаславіі і Венгрыі. Крадзеж быў спынены аператыўнай групай аддзела ўнутраных спраў Цэнтральнага раёна ў саставе оперупаўнаважанага Д. Лукуціна і сяржанта міліцыі А. Жлобіча.**

## ЦІ ВЫЖЫВУЦЬ «ЗАЙЦЫ» БЕЗ «ДЗЕДА МАЗАЯ»?

Чаму «вавёркі», «зайцы» і іншая грашовая фауна не выклікалі чакаемага ажыятажу і прагназуемай стабільнасці рынку? Людзі на прадпрыемствах вельмі падазрона ставяцца да з'яўлення ў зарплаце разліковых білетаў Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, а ў шэрагу камерцыйна-камісійных магазінаў іх наогул адмаўляюцца прымаць да аплаты, не верачы ў фінансавыя здольнасці новых грошай.

У насцярожаных адносінах да «здзічэлых фінансаў» прасочваюцца дзве тэндэнцыі. Большасць удумлівых грамадзян (у тым ліку і камерсантаў) насцярожвае і ўносіць пэўную блытаніну адсутнасць пераліку тавараў і прадуктаў, якія можна набыць толькі за рублі або толькі за разліковыя білеты. Такі пералік з'явіцца хутчэй за ўсё ў сярэдзіне або ў канцы чэрвеня. Гэта дазволіць грамадзянам больш размеркавана траціць свае грошы і адначасова адсячэ пэўную частку «кемлівых» гандляроў з іншых краін СНД.

Вядома, што ў самім кіраўніцтве Нацыянальнага банка на разліковыя білеты глядзяць з аптымізмам і вераць, што яны зоймуць пачэснае месца ў сістэме фінансавага абарачэння рэспублікі. А што рабіць з тымі камерцыйнымі структурамі, якія адмаўляюцца прымаць у аплату «вавёрак» і «зайцоў»? Паводле слоў начальніка ўпраўлення грашовага абарачэння Нацыянальнага банка Тамары Каржанеўскай, з такімі «адмоўнікамі» плануецца толькі растлумачальная работа.

Зразумела адно — нашым «зайцам» тэрмінова неабходны «дзед Мазай». Будзе гэты «дзед» у выглядзе пераліку тавараў або нейкай пастановы Вярхоўнага Савета РБ — пакуль што невядома. Але спадзяёмся, што паважаныя дэпутаты (дарэчы, як і кіраўнікі Нацыянальнага банка, міністэрстваў фінансаў, гандлю і іншых адказных структур) у маладосці спраўна плацілі ўзносы ў таварыства аховы жывёл. Вось цяпер няхай і ахоўваюць. Хоць «жывёлы» толькі на грошах.

**Кар. «Звязды».**

## САВЕТЫ ЦІ МУНІЦЫПАЛІТЭТЫ. ШТО ЛЕПШ?

Некалькі дзён назад пачала сваю працу чарговая сесія Мінскага гарсавета. На жаль, падсумоўваючы вынікі папярэдняй дзейнасці прадстаўнічага органа ўлады беларускай сталіцы, трэба канстатаваць, што эфектыўнасць яе па-ранейшаму даволі нізкая, ды і само слова «праца» не зусім падыходзіць для дакладнай характарыстыкі гарадской сесіі. У чым жа прычына хранічнай недзеяздольнасці, якая праяўляецца ў безвыніковасці працяглых дэбатаў, вельмі сціплым уплыве гарсавета на функцыяніраванне інфраструктуры Мінска, а то і адсутнасці кворуму?

Адразу трэба адзначыць, што падобнае становішча склалася ва ўсіх мясцовых Саветах рэспублікі, незалежна ад прадстаўніцтва ў іх пракамуністычных ці дэмакратычных фракцый. Розніца толькі ў тым, што калі ў маналітна-камуністычных Саветах гэтыя праявы крызісу маўкліва праглынаюцца, то ў больш-менш дэмакратычных па свайму саставу шукаюцца прычыны такіх з'яў.

Гэта агульная хвароба недзеяздольнасці шматлікіх раённых, гарадскіх, абласных Саветаў была аб'ектыўна закладзена з самага пачатку стварэння бальшавікамі савецкай сістэмы ўлады, калі ва ўмовах манапольнага, татальнага кіравання камуністычнай партыі ў савецкай імперыі трэба было стварыць знешнюю бачнасць народаўладдзя. Функцыю гэтай машыны для галасавання, для аўтаматычнага зацвярджэння прымаемых партыяй рашэнняў і выконвалі паспяхова да апошніх часоў Саветы ўсіх узроўняў. Адразу пасля краху КПСС вельмі выразна праявілася непрыстасаванасць, грувасткасць сістэмы Саветаў для самастойнага прыняцця рашэнняў і тым больш для забеспячэння выканання гэтых рашэнняў на практыцы.

Краіны Усходняй Еўропы, якім былы СССР разам з сацыялістычным ладам навязаў і савецкую сістэму мясцовай улады, адразу пасля ліквідацыі камуністычнага дыктату пачалі вяртацца да еўрапейскай муніцыпальнай сістэмы, і іх вопыт у гэтым няпростым працэсе, што ідзе ўжо не першы год, вельмі карысны для нас. Таму з зацікаўленасцю і ўдзячнасцю ўспрынялі дэпутаты мясцовых Саветаў прапанову з Беластока аб правядзенні ў пачатку красавіка сумеснай самаўрадавай канферэнцыі па пытаннях стварэння і дзейнасці мясцовых органаў улады. Многае з таго, што давялося пачуць і пабачыць, будзем імкнуцца прымяніць і ў нас.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## «ПАКІСТАНСКІЯ РАБІНЗОНЫ»

**БРЭСТ. (Ю. Фёдарава). На адной з лясных застаў затрымана вялікая група парушальнікаў дзяржаўнай граніцы. Імі аказаліся маладыя грамадзяне далёкага Пакістана, якія імкнуліся нелегальна прайсці праз кантрольна-следавую паласу, густыя дротавыя загароды, раку Заходні Буг, шырокую ў гэтым месцы, і трапіць у Польшчу. Як заявілі парушальнікі, канчатковай мэтай такога незвычайнага падарожжа былі краіны Заходняй Еўропы. Там пакістанцы мелі намер уладкавацца на работу.**

Група з 12 чалавек затрымана ўзнятай па трывозе заставай глыбокай ноччу. Спецслужбы вядуць расследаванне гэтага сапраўды надзвычайнага здарэння. Падобная дзёрзкасць штурму граніцы ніколі за ўсе пасляваенныя гады, як гавораць, не мела месца. Праўда, абышлося без перастрэлкі.

## БЕЗ ЗНАЧКА І БЕЗ КУЛЬТУРЫ

ЛУНІНЕЦ. Дэпутат Лахвенскага сельсавета Мікалай Луд адмовіўся ад сваіх дэпутацкіх пасведчання і значка. Як ён заявіў, гэта своеасаблівы пратэст супраць разбазарвання дзяржаўных сродкаў на аплату штатных пасад дырэктара клуба і бібліятэкара ў Барсукове, якія быццам бы нічога не робяць, а толькі атрымліваюць зарплату. Такой незвычайнай акцыяй дэпутат збіраецца прымусіць працаваць мясцовых работнікаў культуры.

## Каштоўныя камяні і на заводзе можна здабываць

Каштоўныя металы сталі своеасаблівым прадметам збыту на Мінскім трактарным заводзе.

Гаворка ідзе не пра багатыя радовішчы, адкрытыя геолагамі на тэрыторыі завода. Няма ў МТЗ і сваіх промыслаў. Усё гэта — вынік карпатлівага збору адходаў каштоўных металаў і камянёў, здабытых з абсталявання і прыбораў, якія выйшлі са строю. На прадпрыемстве знаходзяцца на строгім уліку электраапаратура, кантакты, сярэбраныя электроды, тэрмапары і алмазны інструмент. Менавіта яны, адпрацаваўшы свой тэрмін, і з'яўляюцца крыніцай багацця. Для таго каб выключыць усякае знікненне каштоўнасцей, на заводзе рэгулярна праводзіцца інвентарызацыя гэтых вузлоў.

**Алег ПРАЦЬКО.**

## Трагедыя Курапат працягваецца.

### На гэты раз тут гіне наша маральнасць








Гэта толькі здаецца, што ў зялёным гушчары Курапат яшчэ блукае рэха стрэлаў, яшчэ падсыхаюць кроплі крыві на траве, яшчэ стынуць у пяску гарачыя кулі...

На самай справе гэта трашчаць бензапілы, капае смала з парэзаных дрэў, дымяць побач з магіламі вогнішчы «аматараў» прыроды. Не боты энкавэдысцкіх катаў — модны абутак гараджан затоптвае рэшткі былога мемарыяльнага знака-ўказальніка.

Затоптваецца не толькі памяць ахвяр сталіншчыны, але і наша сённяшняя годнасць.

Жудаснае параўнанне, але не толькі трэск стрэлаў і трэск бензапілаў падобныя. Нарэшце трэба зразумець, што, калі адны законы дазвалялі знішчаць цэлыя пакаленні людзей, а другія дазваляюць знішчаць лес над іх магіламі, то ўсе гэтыя законы аднолькава згубныя для нашага сумлення.

— Хто і чаму сячэ лес, — такі запыт мы накіравалі пракурору, — кажа мой субяседнік, народны дэпутат Савецкага райсавета Мінска Уладзімір Стукач.

Гадзіну назад, калі ён прыехаў у рэдакцыю «Звязды», цяжка было паверыць чуткам: пілуюць курапацкія сосны, зруйнавалі мемарыяльны ўказальнік, вакол магіл усё часцей «гудуць» хмяльныя кампаніі. Але ўсё, на жаль, так...

— Наш аргкамітэт грамадска - хрысціянскага аб'яднання «Курапаты», — працягвае Уладзімір, — запатрабаваў ад адпаведных органаў неадкладнага следства па гэтых фактах. Патрэбна тэрміновае ўмяшанне: усё больш радзее лес, за адну ноч на паляне зніклі рэшткі канструкцыі мемарыяльнага ўказальніка, святое месца нашай памяці ўсё больш становіцца падобным на звычайны засмечаны гарадскі бульвар.

Сам баюся свайго прадказання, але чарговай ахвярай сучасных вандалаў можа стаць шматтонны камень з адлітай металічнай шыльдай, дзе занатаваны нашы высокія словы-абяцанні захоўваць светлую памяць. Што збіраемся будаваць?

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

# РОЗГАЛАС

## ЭНЕРГІЮ МОЖНА ЭКАНОМІЦЬ

На Мінскім трактарным заводзе распрацавана праграма «Энергія» на перыяд да 2000 года.

Яна прадугледжвае звышпланавую эканомію 70 тысяч гігакалорый цеплавой і звыш 80 мільёнаў кілаватгадзін электрычнай энергіі. Да ажыццяўлення гэтай праграмы трактарабудаўнікі прыцягваюць і спецыялістаў розных арганізацый. У адпаведнасці з дагаворам прадстаўнікі трэста «Белпрамналадка» рэгулярна правяраюць на прадпрыемстве работу сістэм ацяплення, што дазваляе эксплуатаваць энергаспажываючае абсталяванне ў аптымальным рэжыме. А вучоныя Беларускай політэхнічнай акадэміі (былога БПІ) праводзяць на МТЗ даследаванні па эканоміі паліўна-энергетычных рэсурсаў.

Планы «Энергіі», на думку спецыялістаў прадпрыемства, будуць выкананы, калі не адбудуцца новыя «выбухі» на тэрыторыі былога Саюза.

**Алег ПРАЦЬКО.**

## І ЎЗНЁССЯ ГОСПАД НА НЕБА...

4 чэрвеня праваслаўная царква, стараверы і пратэстанты на Беларусі адзначаюць вялікае свята —Ушэсце. Яно адзначаецца ў памяць аб той падзеі, калі на саракавы дзень пасля ўваскрашэння Ісус Хрыстос узнёсся на неба. На працягу гэтых сарака дзён ён знаходзіўся сярод сваіх вучняў і сяброў і працягваў навучаць іх ісцінам царства нябеснага.

Вось як расказваецца аб Ушэсці ў святым Евангеллі паводле Марка (раздзел 16).

**9. Уваскросшы ж раніцаю ў першы дзень тыдня, Ісус паказаўся спярша Марыі Магдаліне, з якое выгнаў сем дэманаў.**

**10. Яна, пайшоўшы, абвясціла тым, што былі з ім, ды плакалі і галасілі.**

**12. Пасля гэтага паказаўся ў іншым выглядзе двум з іх у дарозе, як ішлі ў вёску.**

**13. І тыя, вярнуўшыся, абвясцілі ўсім іншым, але і ім не паверылі.**

**14. Урэшце паказаўся самім адзінаццаці, што спачывалі за сталом, і дакараў іх за няверу і жорсткасць сэрца, што не паверылі бачыўшым Яго ўваскросшага.**

**15. І сказаў ім: ідзіце па ўсім свеце і абвяшчайце Евангелле ўсякаму стварэнню.**

**16. Хто паверыць і ахрысціцца, выратаваны будзе; хто ж не паверыць, засуджаны будзе.**

**17. А паверыўшым будуць такія знакі: імем Маім дэманаў выганяць стануць, новымі мовамі гаварыць будуць.**

**18. Змеяў браць будуць; ды хоць бы штось смяротнае выпілі, не пашкодзіць ім; паложаць рукі на хворых, то здаровымі будуць.**

**19. Госпад жа пасля гутаркі з імі ўзнёсся на неба і сеў направа ад Бога.**

**20. Яны ж, выйшаўшы, прапаведвалі ўсюды з дапамогай Госпада, сцвярджаўшага ўслед слова іх знакамі.**

«Святы Ушэснік колас точыць, з шастом ходзіць, межы раўняе»— адна з прыказак, прысвечаных гэтаму дню. На Ушэсце гаспадыні абавязкова павінны напячы бліноў, якія называюць Хрыстовымі анучамі.

**Падрыхтаваў Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**

## САВЕТЫ ЦІ МУНІЦЫПАЛІТЭТЫ. ШТО ЛЕПШ?

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Бо праца па рэфарміраванню і змене аджыўшых структур улады ідзе і на Беларусі. Створаны аргкамітэт з ліку дэпутатаў мясцовых Саветаў, дэмакратычных партый і рухаў па правядзенню рэспубліканскай канферэнцыі, што адбудзецца 5—6 чэрвеня ў Мінскім гарсавеце з наступным парадкам дня:

1. Аналіз дзейнасці існуючай сістэмы Саветаў у РБ;

2. Абмеркаванне прапаноў па канцэпцыях пераходу мясцовых органаў улады да еўрапейскай муніцыпальнай сістэмы;

3. Прапановы ў праект Канстытуцыі РБ у раздзел «Мясцовыя органы ўлады». (Кантактныя тэлефоны ў Мінску — 20-96-29; 71-65-08; у Брэсце — 3-98-88; у Магілёве — 25-37-93; у Гродна — 44-67-66; адрас для прапаноў і карэспандэнцыі — 220141, г. Мінск, а/с 93).

Застаецца спадзявацца, што намаганні аргкамітэта канферэнцыі будуць плённымі і дадуць штуршок і прававую базу пад даўно наспелую рэформу мясцовай улады.

**Зміцер ЖДАНЮК, дэпутат Мінгарсавета.**

# ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ

РАДЫЁ ПЕРАХВАТ

### РАДЫЁ «СВАБОДА»

**✻ Прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын назначыў Уладзіміра Шумейку першым намеснікам прэм'ер-міністра Расійскай Федэрацыі. Шумейка будзе кіраваць работай прамысловасці, а таксама прадстаўляць урад у Вярхоўным Савеце. Раней ён займаў пост намесніка старшыні Расійскага парламента. Віцэ-прэзідэнтам прызначаны таксама Георгій Хіжа — былы дырэктар буйнога абароннага завода ў Санкт-Пецярбургу і намеснік мэра горада Анатоля Сабчака.**

✻ Паводле сведчанняў відавочцаў, сербскія фарміраванні напалі з засады на супраўджаемую прадстаўнікамі ААН калону з грузам дапамогі. Вадзіцель адной з аўтамашын забіты. Назіральнікі ААН у Сараеве пацвердзілі факт нападзення на два аўтобусы, якія ехалі пад аховай бронемашын ААН, калі калона ўехала на ўскраіну горада. Хто здзейсніў нападзенне, яны не ўказалі.

**✻ Учора ў Жэневе пачалася штогадовая канферэнцыя Міжнароднай арганізацыі працы. Асноўнае пытанне на парадку дня канферэнцыі — роля арганізацыі ў садзейнічанні ўсходнееўрапейскім краінам у справе пераходу да дэмакратыі і рыначнай эканомікі. Канферэнцыя прадоўжыцца да 23 чэрвеня.**

✻ Кангрэсмены, якія выступаюць супраць палітыкі прэзідэнта ЗША Джорджа Буша ў адносінах да Кітая, рыхтуюцца да чарговай спробы прапанаваць умовы аб прадастаўленні гэтай краіне рэжыму найлепшага спрыяння ў гандлі са Злучанымі Штатамі Амерыкі. Выступаючы ў кангрэсе, Буш указаў, што яго палітыка прамых кантактаў з Пекінам у цэлым апраўдала сябе, нягледзячы на недастатковы прагрэс у пытанні захавання правоў чалавека ў КНР.

**✻ Расія падпісала Статут Міжнароднага валютнага фонду і, такім чынам, стала паўнапраўным членам гэтай уплывовай фінансавай арганізацыі.**

### «БІ-БІ-СІ»

✻ Прэзідэнт Малдовы Мірча Снегур абвінаваціў віцэ-прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Аляксандра Руцкога ў спрыянні агрэсіі 14-й арміі ў суверэннай рэспубліцы. Выступаючы па нацыянальнаму тэлебачанню, Снегур падкрэсліў, што менавіта Руцкой падрыхтаваў акт акупацыі падраздзяленнямі гэтай арміі левабярэжжа Малдовы. Як вядома, у час свайго візіту ў Малдову віцэ-прэзідэнт Расіі выказаўся ў падтрымку прыднястроўскага руху за наданне рэгіёну палітычнага статуса.

**✻ Як паведамляе агенцтва Асошыэйтэд Прэс, лідэр Палесціны Ясір Арафат хутка выздараўлівае пасля аперацыі. Яна была зроблена Арафату ў панядзелак. На мазгу палесцінца быў выдалены невялікі згустак крыві. Гематома была выклікана раненнем, якое Арафат атрымаў у час катастрофы яго самалёта ў пустыні Лівіі ў красавіку гэтага года.**

✻ Амерыканская кампанія «Інтэрсорс тэкналоджыс» (Каліфорнія) аб'явіла, што яе спецыялісты стварылі электронную лямпу, якая можа служыць не менш 18 гадоў. Яна адрозніваецца ад звычайнай тым, што ўнутры колбы, напоўненай газам, знаходзіцца магнітная катушка, якая «выдае» радыёхвалі высокай частаты. Утвараецца плазма, якая і прымушае свяціцца фосфарнае пакрыццё сценак колбы, паведамляе агенцтва Рэйтэр.

**✻ Тры галасы не хапіла правацэнтрысцкай апазіцыі Нацыянальнага сходу Францыі для прыняцця праекта рэзалюцыі аб недаверы ўраду П'ера Берагавуа.**

### «РАДЫЁ ІЗРАІЛЯ»

✻ Эксперты ААН назіралі за разбурэннем двух іракскіх ядзерных заводаў, дзе выраблялася зброя масавага знішчэння. Галоўнай мэтай экспертаў было высветліць, якія іменна фірмы і краіны аказвалі Іраку дапамогу ў ажыццяўленні ядзернай праграмы. Ірак адмовіўся прадставіць ім патрэбную інфармацыю.

**✻ У красавіку гэтага года ў Ізраілі пабывала 164 тысячы турыстаў. За першыя 4 месяцы краіну наведала 469 тысяч падарожнікаў, амаль у тры разы больш, чым за такі ж перыяд летась.**

✻ Салдаты Шры-Ланкі толькі за адзін дзень забілі не менш 125 тамільскіх паўстанцаў.

### «РАДЫЁ КАНАДЫ»

**✻ Канада лічыць, што верагоднасць этнічных войнаў у Еўропе і былым Савецкім Саюзе ўсё больш павялічваецца. Міжнародная супольнасць павінна ўмешвацца для папярэджвання такіх войнаў на ранніх стадыях і, калі спатрэбіцца, выкарыстоўваць зброю і ваенную сілу. Міністр замежных спраў Канады Мак'Дугал лічыць, што надышоў час пераходзіць ад справы падтрымання міру ў свеце да стварэння міру міжнароднымі сіламі.**

● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ●

# Браканьеры ў законе

Больш за 300 тысяч аматараў рыбнай лоўлі Віцебшчыны з нецярпеннем і хваляваннем рыхтаваліся да новай веснавой сустрэчы з прыродай. Схаваўшы да наступнай зімы вуды і лёдабуры, пачалі ўжо наладжваць летнія снасці.

Але... Сёлета, відаць, убачыць веснавое адраджэнне прыроды, узыходы сонца, ціхія, як рухомая вата, туманы ў нізінах, над ручаямі і затокамі ім не ўдасца. У гэтым годзе ўпершыню, магчыма, за стагоддзі, да таго ж, у адной толькі Віцебскай вобласці—краі блакітных азёр — забаронена аматарская рыбалка на красавік і май, а магчыма і далей.

Ці ёсць якая важкая прычына такога нечаканага і, можна сказаць, неразумнага рашэння? Вядома, няма. У мінулыя гады на час нерасту для аматарскай лоўлі адводзіліся азёры ці ўчасткі на іх, рэчкі, якія не маюць промыславага значэння. Ніякай адчувальнай шкоды прыродзе аматары, вядома, не наносяць. Наадварот, ад іх прысутнасці вельмі няўтульна браканьерам, розным хапугам і хціўцам.

Відаць, менавіта гэта і з'явілася прычынай сёлетняй забароны аматарскай рыбалкі. Нікаму не хочацца пры сведках займацца, хоць і ўзаконеным, аднак браканьерствам. Вось мяркуйце самі. 31 сакавіка г. г. у газеце «Віцебскі рабочы» апублікавана рашэнне рыбаахоўных органаў і аблвыканкома, у якім сказана: «Адначасова (з забаронай аматарскай лоўлі.— **М. С.**) з мэтай рыбагаспадарчай меліярацыі ў 1992 годзе дазволіць промыславую лоўлю рыбы на азёрах Езярышча, Лісна і Белае-Катлярова без захавання промыславай меры на ляшча». Наўрад ці трэба тлумачыць, што гэта азначае. Мінулай зімой многія аматары рыбнай лоўлі былі, напрыклад, аштрафаваны за парушэнне гэтай самай меры на возеры Езярышча. Парушальнікаў, вядома, апраўдваць нельга. Але ж парушэнне промыславай меры на ляшча ў час нерасту ды яшчэ пры лоўлі кіламетровымі невадамі самае сапраўднае злачынства.

У рашэнні № 100 Віцебскага аблвыканкома ад 2 красавіка гэтага года сказана: «З мэтай атрымання дапаможнага матэрыялу дазволіць Віцебскай абласной інспекцыі рыбаахоўы адлоў вытворнікаў мясцовых рыб у час веснавой забароны на наступных вадаёмах і ў наступных колькасцях: азёры Наўліца, Асвея і Нажліва —300 шчупакоў, 300 ляшчоў; Бужа, Снуды, Богіна і Саванар —210 шчупакоў і 500 ляшчоў; Лукомскае і Оталава —200 шчупакоў і 200 ляшчоў; Вымна і Серакаратнянскае —300 шчупакоў і 500 ляшчоў».

Ці трэба даказваць, што гэта чыстай вады грабеж прыродных багаццяў. У першым выпадку тры буйнейшыя азёры вобласці ў імя лягчэйшага выканання плана рыбгасамі ахвяраваны на поўнае вынішчэнне рыбы ў іх. Не менш дзіўным з'яўляецца так званая рыбаразводная дзейнасць абласной рыбаахоўнай інспекцыі. На Віцебшчыне многія сотні азёр і рэк. І каб весці на іх нейкую штучную рыбаразводную работу, патрэбны магутныя промыславыя пітомнікі для атрымання малявак мясцовай рыбы, мільённыя грашовыя асігнаванні, адпаведная тэхніка. Віцебская вобласць нічога гэтага не мае. Ёсць толькі тры дзесяткі рыбінспектараў, абавязак якіх — ахоўваць вадаёмы, нерасцілішчы, змагацца з браканьерамі, забяспечыць натуральнае развядзенне рыбы, спрыяльныя ўмовы для яе жыцця і росту. Штучнае ж развядзенне без пэўнага матэрыяльнага і фінансавага забеспячэння — гэта ўзаконенне найгрубейшага браканьерства. І вось, каб пазбавіцца сведак гэтай бруднай авантуры, рыбаахоўнікі і дабіліся забароны веснавой аматарскай лоўлі рыбы. Але ж гэта нічога агульнага не мае з клопатамі аб рыбных запасах, аб інтарэсах людзей, іх адпачынку.

**М. СПАТКАЙ, грамадскі інспектар Дзяржкамітэта Рэспублікі Беларусь па экалогіі.**

## Не спяшайцеся быць багатымі. Яны таксама плачуць...

**Стаць мільянерам за год? Няма нічога прасцей, калі ў вас ёсць хаця б 500 рублёў. Не верыце? Зазірніце ў любую рэкламную газету: «Унікальны спосаб заробку высылаецца неадкладна пасля атрымання вашага пісьма і заяўкі. Аплата накладной платай пасля атрымання 140 рублёў. І будзьце ўпэўнены: аўчынка вартая вырабу».**

Думаецца, не адна пара вачэй запалілася ліхаманкавым бляскам, чытаючы аб'яву ў «Экспрэс-рэкламе», а на адрас таямнічага добразычліўца, які на ўсякі выпадак назваў толькі нумар сваёй абанентнай скрынкі, патокам хлынулі паштовыя пераводы. Колькі іх было — 100, 200?.. На мільён, можа, і не набралася, ну, а тысяч на трыццаць — то напэўна. А якую ж такую параду атрымалі жадаючыя займець мільёнчык без лішняй напругі? Вельмі простую: дайце аналагічныя аб'явы ў рэкламныя газеты, і грошы паплывуць і да вас. Бачыце, як проста. А галоўнае — сумленна, як сцвярджаюць розныя «абанентныя скрынкі».

Між тым, з цягам часу колькасць народных мудрацоў у нашай краіне не меншае. Прычым некаторыя з іх настолькі расшчодрыліся, што гатовы ўсяго за 85 рублёў (усё той жа накладной платай на адрас паштовай скрынкі) выслаць вам «залатую формулу» амерыканскага мультымільянера Джона Ракфелера, якая складаецца з пяці слоў. Маўляў, даведаўшыся аб сэнсе гэтых слоў і зрабіўшы іх дэвізам свайго жыцця, у вас будзе толькі адна праблема — куды дзяваць грошы. Праўда, пра сумленнасць у гэтай аб'яве — ні слова: дзе ж гэта відана, каб амерыканскія мультымільянеры сумленна зараблялі?

**Аляксандр ХРАМАЎ.**

# Зельнік

**НАРОДНЫЯ НАЗВЫ:** бружаліна, сухадрэўка, свідзіна, бружняўнік, шымаласця.

На Беларусі расце паўсюдна сярод хмызнякоў, на ўзлесках. Куст вышынёй да 1,5 м, марозаўстойлівы. Расце павольна, за першы год павялічваецца на 4—7 см, за другі — на 25—35 см, за трэці — на 45—50 см. Галінкі пакрытыя шэрай карой. Лісце дробнае, прадаўгаватае, бледна-зялёнае, апушчанае.

Цвіце ў чэрвені. Кветкавыя пупышкі распускаюцца на 2—5 дзён раней, чым вегетатыўныя. Кветкі дробныя, жаўтавата-белыя, сабраныя па 2—4 у суквецці, пахкія.

Пладаносіць на трэці— чацвёрты год. Плады буйныя, чорныя, з шызым налётам, прыемнага кісла-салодкага смаку, нагадваюць буякі, паспяваюць у чэрвені — ліпені нераўнамерна.

У пладах змяшчаюцца арганічныя кіслоты, дубільныя рэчывы, вітаміны Р, С, фенолы.

# Бружмель ядомы

### СТРАВЫ З БРУЖМЕЛЕМ

**ДЛЯ ХАРЧАВАННЯ прыгодныя плады бружмелю. З іх гатуюць асвяжальныя напіткі, кампоты, кісялі, варэнні, джэмы, мусы. Сырыя ягады ядуць з цукрам, малаком, смятанай.**

**КАМПОТ З БРУЖМЕЛЮ. Спелыя плады прамыць халоднай вадой, раскласці ў гарачыя стэрылізаваныя слоікі, заліць 50-працэнтным цукровым сіропам і пастэрызаваць пры тэмпературы 85° С: паўлітровыя слоікі—15, літровыя—20 хвілін. Слоікі закупорыць.**

1 кг ягад бружмелю, 500 г цукру, 500 мл вады.

**КІСЕЛЬ З БРУЖМЕЛЮ. Спелыя плады расцерці, адціснуць сок. Жамерыны праварыць у вадзе, працадзіць, у адвар усыпаць цукар, уліць разведзены халоднай вадой крухмал і давесці да кіпення. Кісель зняць з агню, добра размяшаць, дадаць сок, разліць у шклянкі ці кубкі і пасыпаць па смаку цукрам.**

500 г пладоў бружмелю, 300 г цукру, 25 г крухмалу, 1 л вады.

**БРУЖМЕЛЬ У ЦУКРЫ. Спелыя плады раскласці ў шкляныя слоікі, паслойна засыпаць цукрам і закрыць пергаментнай паперай. Захоўваць у халаднаватым месцы.**

1 кг пладоў бружмелю, 1,2—1,5 кг цукру.

**БРУЖМЕЛЬ З ЦУКРАМ. Плады бружмелю прапусціць праз мясарубку з цукрам. Масу раскласці ў шкляныя слоікі, закрыць поліэтыленавымі накрыўкамі ці пергаментнай паперай. Захоўваць у халаднаватым месцы.**

1 кг пладоў бружмелю, 1,5 кг цукру.

**СОК З БРУЖМЕЛЮ. Плады ў паліванай пасудзіне прагрэць, расцерці драўляным таўкачом, адціснуць сок, дадаць цукар ці цукровы сіроп і давесці да кіпення. Разліць у стэрылізаваныя бутэлькі, слоікі і закупорыць.**

1 кг пладоў бружмелю, 100 г цукру.

**СОК БРУЖМЕЛЮ можа быць выкарыстаны як бясшкодны харчовы фарбавальнік для напіткаў, жэле, налівак і г.д. Яго можна змешваць з сокам буякоў, чарніц, суніц, парэчак.**

**ДЖЭМ З БРУЖМЕЛЮ. Плады засыпаць цукрам і вытрымаць 4 гадзіны, дадаць ваду і варыць на слабым агні да поўнага развару. Джэм астудзіць, раскласці ў шкляныя слоікі, накрыць пергаментнай паперай. Захоўваць у халаднаватым месцы.**

1 кг пладоў бружмелю, 1,5—2 кг цукру, 200—400 мл вады.

**ПАСЦІЛА З БРУЖМЕЛЮ. Плады расцерці, адціснуць сок. Жамерыны засыпаць цукрам на 5 гадзін ці награваць на слабым агні 15 хвілін. Масу старанна размяшаць, раскатаць у пласт таўшчынёй 1,5 см, пасыпаць цукрам, падсушыць у цёплай духоўцы, парэзаць ромбікамі. Захоўваць у шкляной пасудзіне ў халаднаватым месцы.**

1 кг пладоў бружмелю, 1,2 кг цукру.

**ВАРЭННЕ З БРУЖМЕЛЮ. Неспелыя плады пакласці ў гарачы 70-працэнтны цукровы сіроп на 4 гадзіны, праварыць 5—7 хвілін, зняць з агню, настойваць 6—8 гадзін, затым зварыць да гатоўнасці. Каб варэнне не зацукравалася, за некалькі хвілін да гатоўнасці дадаць лімонную кіслату.**

**Варэнне з бружмелю па колеру і смаку нагадвае вішнёвае.**

1 кг пладоў бружмелю, 700 г цукру, 300 мл вады, 1 г лімоннай кіслаты.

**ЖЭЛЕ З БРУЖМЕЛЮ. Плады расцерці, адціснуць сок, развесці вадой (1:1), дадаць цукар, уліць раствораны жэлацін, праварыць тры хвіліны і разліць у шклянкі ці вазачкі.**

1 кг пладоў бружмелю, 15 г жэлаціну, цукар па смаку.

### ГАСПАДАРЧАЕ ВЫКАРЫСТАННЕ

У ГАСПАДАРЦЫ выкарыстоўваюць вельмі шчыльную, цвёрдую, як костка, драўніну бружмелю. З яе робяць шавецкія цвікі, шомпалы для стрэльбаў, ткацкія чаўнакі і многія іншыя рэчы. Чырванадрэўшчыкі, народныя ўмельцы, рэзчыкі вырабляюць сувеніры, якія вызначаюцца вялікай трываласцю.

### ЛЕКАВЫЯ ЎЛАСЦІВАСЦІ

У НАРОДНАЙ МЕДЫЦЫНЕ выкарыстоўваюць плады, кветкі, кару бружмелю. Яны аказваюць мачагоннае, процізапаленчае, процігнілатнае, процісклератычнае дзеянне.

НАСТОЙ З ЛІСЦЯ БРУЖМЕЛЮ. 10 г лісця настойваюць у 200 мл кіпеню 2 гадзіны і працаджваюць. Піць па 1 сталовай лыжцы 4 разы на дзень пры ацёках, паносах, хваробах нырак, мачавога пузыра. Выкарыстоўваць для прамывання ран, болек, апёкаў.

НАСТОЙ З ПЛАДОЎ БРУЖМЕЛЮ. 20 г пладоў настойваць у тэрмасе ў 200 мл кіпеню 4 гадзіны. Піць па 50 мл 3 разы на дзень пры гіпертанічнай хваробе, гастрытах, калітах з паносамі, малакроўі, гіпавітамінозах.

20 г галінак і кары бружмелю гатаваць у 200 мл вады 15 хвілін, затым настойваць 1 гадзіну. Прымаць па 1 сталовай лыжцы 3 разы на дзень перад ядой пры гастрытах, калітах з паносамі, ацёках, авітамінозах.

Проціпаказанні не ўстаноўлены.

### НАРЫХТОЎКА БРУЖМЕЛЮ

НАРЫХТОЎВАЮЦЬ маладыя галінкі, лісце бружмелю ў час цвіцення. Сушаць у засені, у памяшканні, якое добра праветрываецца, на гарышчах, адкрытых верандах. Плады збіраюць па меры паспявання. Сушаць у духоўках, печах, сушылках пры 65—70℃.

Кару нарыхтоўваюць ранняй вясной. Сушаць на паветры, на гарышчах, у памяшканні, якое добра праветрываецца.

Тэрмін захоўвання лісця і галінак 1 год, пладоў — да 2 гадоў, кары —3 гады.

**Ніна АЛЯКСЕЙЧЫК, Валер САНЬКО.**

# Разведчык без ідэі? Абсурд

**Генерал-маёр Генадзь Міхайлавіч ЛАВІЦКІ — намеснік старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь. Некаторыя кіраўнікі яго рангу з першай мінуты даюць зразумець: у нас, маўляў, розныя вагавыя катэгорыі. Май гэта на ўвазе, журналіст. І не пераступай рысу. У падобных выпадках гутарка ідзе цяжка. Хочацца хутчэй закрыць блакнот, выключыць дыктафон.**

**А вось Генадзь Міхайлавіч Лавіцкі адразу заваяваў сімпатыю. Просты, абаяльны. Ніякага апломбу, не ўхіляецца ад вострых пытанняў, умее слухаць.**

**— Прыходзіцца часта чуць, што на рахунку КДБ рэспублікі нямала цяжкіх злачынстваў, асабліва ў частцы вышуку і праследаванняў за іншадумства, што ён садзіў за краты бязвінных людзей ужо ў пасляваенныя гады. Адсюль — насцярожанасць, абвінавачванні.**

— Вельмі хачу, каб усе зразумелі: дзяржбяспеку, дакладней, нацыянальную бяспеку Беларусі, ні ў якім разе нельга атаясамліваць з НКУС, берыеўскім МУС. Трэба зняць псіхалагічны бар'ер паміж дзяржбяспекай і народам, які ў асноўным створаны штучна. І дапамагчы нам у гэтым павінен друк.

У нас, як і ў цэлым у краіне, у той ці іншай форме быў палітычны вышук. Але спытайце, каго арыштавалі па палітычных матывах у рэспубліцы, акрамя грамадзяніна Кукабака? І зроблена гэта было не па самавольству КДБ, як некаторыя хацелі б паказаць, а ў адпаведнасці з існуючым заканадаўствам.

**— Значыць, не трэба ўжо нікога палохаць жупелам КДБ?**

— Мяркуйце самі, сёння нашым маладым супрацоўнікам, якія нарадзіліся ў пасляваенны час, прыходзіцца несці маральную адказнасць за тое, чаго яны ніколі не рабілі, за дзеянні таго ж НКУС. Ці адносна ўжо больш свежых падзей. Ну, скажыце, хіба дзяржбяспека стварала законы, прыдумвала артыкулы аб «антысавецкай прапагандзе і агітацыі», «паклёпніцкіх выдумках»? КДБ — выканаўчы орган, ён выконвае тое, што яму загадваюць. Ён падначальваецца закону. Іншая справа — які гэты закон. Больш таго, мы не былі «сляпой зброяй» і не перастараліся ў праследаванні іншадумцаў — калі названыя артыкулы прадугледжвалі крымінальныя меры спынення, то мы, наадварот, стараліся прымяняць растлумачальныя, прафілактычныя метады. Вядома, гэта не датычыла здрады Радзіме, тэрарыстычных акцый, кантрабанды. Вось я і думаю: у чым мне і маім таварышам трэба каяцца? У тым, што вялі барацьбу са злачыннасцю, усё жыццё працавалі сумленна?

**— Генадзь Міхайлавіч, пасля жнівеньскага путчу ў КДБ Рэспублікі Беларусь адбыліся змены. Не маглі б вы расказаць пра гэта больш падрабязна?**

— Не так даўно наш камітэт уваходзіў у састаў саюзна-рэспубліканскіх структур. Цяпер гэта рэспубліканскі орган дзяржаўнага кіравання, непасрэдна падначалены і падсправаздачны Вярхоўнаму Савету.

Мы ствараем суверэнную дзяржаву, а ў ёй, ва ўсякім разе пры цяперашнім становішчы ў свеце, павінна быць і спецслужба. Няхай нешматлікая, але павінна быць. Дарэчы, мы праводзім работу па скарачэнню апарату. Справа гэта вельмі складаная і тонкая. Нельга проста так выкінуць чалавека, закліканага дзяржавай на службу, часам з адрывам ад любімай работы і перспектыў, і раптам стаўшага гэтай дзяржаве непатрэбным. Больш за 150 работнікаў, у тым ліку кіруючага саставу, мы праводзілі на заслужаны адпачынак. Ліквідавалі некаторыя ўпраўленні. Лічу, што ў Камітэта дзяржбяспекі, як спецслужбы, асноўнымі напрамкамі ў рабоце павінны быць разведка і контрразведка. У адпаведнасці з Часовым палажэннем аб Камітэце дзяржбяспекі Рэспублікі Беларусь, прынятым у студзені гэтага года, нам неабходна таксама сканцэнтраваць намаганні і больш жорстка, эфектыўна весці барацьбу з арганізаванай злачыннасцю, тэрарыстычнымі праяўленнямі. Неад'емнай часткай нашай дзейнасці з'яўляецца таксама інфармацыйна-аналітычная работа, інфармаванне органаў улады і кіравання рэспублікі. І ўсё ж мы з нецярпеннем чакаем прыняцця закона аб службе бяспекі, закона аб аператыўна-вышукной дзейнасці, якія дакладна рэгламентавалі б нашы дзеянні, зводзілі да мінімуму падзаконныя, унутрыведамасныя акты і збаўлялі ад усялякіх падазрэнняў і абвінавачванняў усю нашу службу і яе супрацоўнікаў.

**— У Літве служба бяспекі вывела са сваіх радоў былых камуністаў, партыйных і камсамольскіх работнікаў. А як у КДБ Беларусі?**

— Пагоня за «ведзьмамі», забароны на прафесіі? Гэта ніяк не стасуецца з дэмакратыяй. Галоўны крытэрый ацэнкі работніка — яго прафесіяналізм, адданасць абавязку.

Орган дзяржаўнай бяспекі, вядома, з'яўляецца падначаленым існуючым уладам і ўраду. Але вельмі хацелася б, каб спецслужба працавала не на канкрэтнага кіраўніка ці партыю, а на Канстытуцыю — Асноўны Закон дзяржавы. Тады мы будзем абаронены ад кан'юнктурнага гіпнозу першай асобы. Як быць, напрыклад, супрацоўнікам дзяржбяспекі Грузіі, якія служылі раней ураду і кампартыі сацыялістычнай рэспублікі, а затым прысягнулі прэзідэнту Гамсахурдыя? Таму нам ні ў якім разе нельга браць на ўзбраенне практыку падбору кадраў па прынцыпу асабістай адданасці. Вы ведаеце, усё гэта вельмі пахне «ахранкай» пры дэпартаменце паліцыі, створанай у 90-х гадах мінулага стагоддзя для барацьбы з рэвалюцыйным рухам. На жаль, і ў Беларусі некаторыя дэмакратычна настроеныя грамадзяне пачынаюць цікавіцца ў нас: чаму не спыняеце дзейнасць Жырыноўскага, «Славянскага Сабора», «Памяці»? Але, прабачце, менавіта пад уздзеяннем дэмакратычных пераўтварэнняў мы адышлі ад палітычнага вышуку.

**— Многіх чытачоў цікавіць, якая абстаноўка цяпер на заходняй граніцы?**

— Нашы граніцы ахоўваюць пагранічныя войскі Рэспублікі Беларусь, якія створаны і дзейнічаюць у рамках дагаворанасцей СНД. Якіх-небудзь асаблівых ускладненняў адносна надзейнасці забеспячэння граніц, рэжыму аховы я не бачу. Разам з тым усіх нас непакояць частыя выпадкі парушэння заходняй граніцы (летась затрымана 403 парушальнікі), выпадкі кантрабанды зброі, вывазу валютных і таварных каштоўнасцей. Увогуле, работы хапае і пагранічнікам, і мытнікам, і КДБ.

**— Раней было многа фільмаў аб шпіёнах. Цяпер яны — рэдкасць. Ці то кінематаграфісты вычарпалі тэму, ці шпіёны перавяліся?**

— Не ведаю, як там і што ў кінематаграфістаў. Затое ведаю іншае, што не можа не хваляваць. Нядаўна ў інтэрв'ю Эй-бі-сі Дж. Бейкер прызнаў, што «за некалькі дзесяцігоддзяў мы (ЗША) затрацілі трыльёны долараў, каб перамагчы ў «халоднай вайне». Дырэктар ЦРУ Р. Гейтс адкрыта заявіў: мы сканцэнтруем такія сілы і павядзём такую агентурную работу ў былым Саюзе, як ніколі раней. І заклікаў членаў кангрэса не спяшацца з абмежаваннем бюджэту разведвальных ведамстваў, які, па ацэнках амерыканскага друку, складае амаль 30 мільярдаў долараў у год.

Пра аналагічныя намеры актывізацыі разведвальнай дзейнасці супраць краін СНД гаварыў і кіраўнік знешняй разведкі Германіі К. Порцнер, іншыя прадстаўнікі спецслужбаў. Паверце, гэта я не для апраўдання свайго існавання, у чым нас часта спрабуюць папракнуць. Узмацненне разведвальнага націску мы штодзённа адчуваем у патоку аператыўнай інфармацыі. У сувязі з выхадам Беларусі на міжнародную арэну ў нас з'яўляюцца пасольствы, іншыя ўсемагчымыя замежныя прадстаўніцтвы, узмацняецца навукова-тэхнічны, культурны, турысцкі абмен, што, натуральна, шматразова расшырае разведвальныя магчымасці замежных дзяржаў. І, не нагнятаючы шпіёнаманіі, трэба сказаць, што ў кожнай суверэннай дзяржавы ёсць свой рэжым дзяржаўнай сакрэтнасці, які неабходна захоўваць.

**— Відаць, ёсць і прыклады спынення разведвальнай дзейнасці замежных спецслужбаў?**

— Вядома. Намі выяўляліся спробы вярбовак беларускіх дыпламатаў у час іх знаходжання за рубяжом. Мэта апрацоўкі — прыцягненне да «супрацоўніцтва». Своечасова прынятыя аператыўныя меры ў шэрагу выпадкаў дапамаглі сарваць гэтыя акцыі.

Яшчэ толькі адзін факт. У Маскве чэкісты Беларусі дапамаглі захапіць з доказамі злачынства аташэ пасольства ЗША Луіса Томаса пры перадачы ім раней завербаванаму жыхару Гомельскай вобласці інструкцыі па тайніку. Пры наступным расследаванні былі атрыманы матэрыялы, якія выкрывалі разведвальную дзейнасць амерыканскага дыпламата.

**— Генадзь Міхайлавіч, калі можна, некалькі слоў пра тых вашых супрацоўнікаў, якія працуюць за рубяжом.**

— Вы, вядома, разумееце, што аб дзеючых разведчыках або наогул нічога не гавораць, або толькі штосьці вельмі неканкрэтнае. Таму і я магу адзначыць толькі тое, што гэтыя людзі адукаваныя, думаючыя, энергічныя. Народныя грошы адпрацоўваюць сумленна. Нядаўна мы атрымалі падзячныя пісьмы ад вучоных аднаго з рэспубліканскіх навукова-даследчых інстытутаў за тое, што дапамаглі зберагчы дзесяткі тысяч долараў...

**— Ці звяртаецца камітэт да паслуг няштатных агентаў?**

— Так, у Камітэта дзяржбяспекі, як, падкрэсліваю, у любой спецслужбы ў свеце, ёсць сетка негалосных памочнікаў, дарэчы, яны супрацоўнічаюць з намі на добраахвотнай аснове. Лічу, што неабходна хутчэй прыняць закон, які афіцыяльна рэгламентаваў бы такую дзейнасць.

**— Дзякуй, Генадзь Міхайлавіч, за гутарку. Поспехаў вам.**

**Гутарку вёў Барыс ДОЎГАЛЬ.**

## Польшча не за гарамі

На аснове кабельных ліній створана і дзейнічае Наваградская тэлекампанія «НОТА-ТБ» — таварыства з абмежаванай адказнасцю.

Ужо зараз тэлепраграма «НОТА» трансліруе сваім абанентам некалькі тэлеканалаў спадарожнікавага тэлебачання, вечарамі дэманструюцца мастацкія відэафільмы. Акрамя гэтага, творчая група тэлекампаніі ў складзе журналістаў В. Навагран, Ю. Гацкага і аператара М. Харунжага прапануе гараджанам тэлеперадачу «Вячэрні Наваградак», сюжэты якой расказваюць аб гісторыі горада і яго сённяшнім жыцці. Таксама прымаецца рэклама і аб'явы ад прадпрыемстваў горада, раёна і прыватных асоб. У перспектыве «НОТА-ТБ» —вяшчанне тэлеперадач Рэспублікі Польшча і расійскага тэлеканала.

**Ю. ГАЦКІ.**

## Кадры фарміруюць рынак

**ГРОДНА. Першая ў вобласці школа бізнесу пачала працаваць у Гродзенскім дзяржаўным універсітэце.**

Дэбютную групу склалі 11 слухачоў, якія павінны прайсці праграму агульнай працягласцю ў 171 гадзіну. Плата за навучанне — 4 тысячы рублёў, але за веды ва ўмовах фарміравання рынку будучыя бізнесмены гатовы заплаціць і больш, бо недахват кадраў школе бізнесу не пагражае.

## Чаго няма ў Японіі— ёсць у Магілёве

**У горадзе на Дняпры працягваецца міжнародны сімпозіум «Здароўе дзяцей і Чарнобыль». Ён арганізаваны мемарыяльным фондам аховы здароўя Сасакава. Напярэдадні адбыліся афіцыяльны прыём і прэс-канферэнцыя.**

Фонд Сасакава на дабрачыннай аснове здзяйсняе ў раёнах Беларусі, Украіны і Расіі, якія пацярпелі ад аварыі на ЧАЭС, шырокамаштабную праграму абследавання дзяцей, стварыў у Магілёве, Гомелі, Клінцах, Кіеве спецыяльныя цэнтры. У прывітанні ўрада Беларусі, якое на прыёме перадаў спадару Ехэя Сасакава віцэ-прэм'ер нашай рэспублікі Кенік, падкрэсліваецца, што праграма японскай дапамогі добра забяспечана матэрыяльна і выклікае глыбокую ўдзячнасць беларускага народа.

Аб навуковым і фінансавым узроўні праекта «Чарнобыль — Сасакава» сведчыць наступная дэталь. Якраз напярэдадні прадстаўнікі універсітэтаў Хірасімы і Нагасакі, іншыя сусветна вядомыя навукоўцы пабывалі ў Магілёўскім абласным дыягнастычным цэнтры. На прэс-канферэнцыі яны падкрэслівалі, што тут, у Магілёве, зараз ужо ўстаноўлены і дзейнічаюць некаторыя комплексы дыягнастычнага абсталявання, якіх пакуль няма нават ні ў адным медыцынскім цэнтры Японіі. Магілёўскі дыягнастычны цэнтр як па абсталяванасці, так і па ўзроўню тутэйшых медыцынскіх кадраў атрымаў сусветнае прызнанне. З гэтай нагоды варта ўспомніць, што за стварэнне унікальнай медыцынскай установы на стадыі яе будаўніцтва настойліва змагалася і газета «Звязда». Але заўважым, што менавіта фондам Сасакава навейшае абсталяванне, якое існуе пакуль у адзінкавых узорах, пастаўлена ў Магілёў.

**Аляксандр САНЧУК.**

